










АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

28 лютага 2001 года

Цана 100 рублёў

№ 9 (2723)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


ПАЎСТАГОДДЗЯ РАЗАМ



● Аляксандр ХІТРОЎ.

"Залатое" вяселле адсвяткавалі віцябляне Марыя і Аляксандр ЛЫСЯНКОВЫ (на здымку). Ён партызаніў з 16 гадоў, згубіў на вайне чатырох братоў, доўга служыў у арміі, працаваў на Поўначы, стаў інвалідам II групы. Згубіла блізкіх у час вайны і Марыя Міхайлаўна. Доўгія гады яна настаўнічала — яе працоўны стаж працягваўся амаль паўстагоддзя.

БелТА.

ДЫПКУР'ЕР

## ЗАЯВА МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокую заклапочанасць у сувязі з нанясеннем Злучанымі Штатамі Амерыкі і Вялікабрытаніяй ракетных удараў па аб'ектах у паўднёва-заходніх прыгарадах Багдада.

Рэспубліка Беларусь пацвярджае сваю цвёрдую пазіцыю аб недапушчальнасці выкарыстання сілы ў абыход рашэнняў Савета Бяспекі ААН і асуджае практыку нанясення ваенных удараў па Іраку.

Падобныя дзеянні з'яўляюцца непрыкрытым парушэннем міжнароднага права, падрываюць прадугледжаную Статутам ААН сістэму падтрымання міжнароднага міру і бяспекі. Здзяйсненне такіх акцый толькі абвастрае сітуацыю ў рэгіёне і ў глабальным маштабе.

Рэспубліка Беларусь лічыць неабходным поўнасцю выкарыстаць патэнцыял Савета Бяспекі ААН для прадухілення і вырашэння канфліктных сітуацый мірным шляхам.

СПОРТ



## БАРАЦЬБА: ПЛЮСЫ І МІНУСЫ

**У Мінскім Палацы спорту завяршыўся XXXI Міжнародны турнір па вольнай барацьбе на прызы трохразовага алімпійскага чэмпіёна, віцэ-прэзідэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэта Аляксандра Мядзведзя.**

Жывая легенда беларускага спорту сам уручаў прызы пераможцам спаборніцтваў. На гэты раз у турніры прынялі ўдзел прадстаўнікі 14 краін: Арменіі, Індыі, Казахстана, Паўднёвай Карэі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Турцыі, Узбекістана, Украіны, Францыі, Эстоніі і Беларусі. 155 барцоў змагаліся за прызы ў васьмі вагавых катэгорыях.

Два дні беспярэпынна на трох пляцоўках ішлі ўпартыя паядынкі. У выніку пераможцамі сталі:

**Дзілшот Мансураў** (Узбекістан) — 54 кг;

**Аляксандр Карніцкі** (Беларусь) — 58 кг;

**Сяргей Смаль** (Беларусь) — 63 кг;

**Ісхак Базіеў** (Расія) — 69 кг;

Заканчэнне на 2-й стар.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ: УКРАІНА

Сёлета нам давялося пазнаёміцца з вашай газетай. Мы практыкуем падпіску беларускіх выданняў для дэпутатаў раённага савета. Раней гэта былі "Народная газета", "Советская Белоруссия", "Беларускі час". Я многія гады падпісваўся на "Звязду", "Белорусскую ниву", "Чырвоную змену", часопісы "Беларусь", "Хозяин".

Мне, украінцу, блізкая і дарагая Беларусь перш за ўсё таму, што я вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Пазнаёміўся з многімі шчырымі, добразычлівымі, працавітымі людзьмі. Я ведаю многія гістарычныя і культурныя мясціны Мінска і іншых гарадоў і вёсак краіны.

Многае з вопыту работы органаў мясцовага самакіравання Беларусі, выканаўчай улады стараемся выкарыстоўваць у сваёй працы. Заўсёды помню, што ў нашых народаў шмат агульнага.

Нядаўна дэпутаты пабывалі ў старажытным Астрогу, які адзначыў сваё 900-годдзе. Наведалі Нацыянальны універсітэт "Астрожская акадэмія", перад намі з лекцыямі па эканоміцы, адукацыі, культуры, тэалогіі выступілі вучоныя гэтай вышэйшай навучальнай установы.

Утварэнне акадэміі ў XVI стагоддзі звязана з князем Васілём-Канстанцінам Астрожскім, таленавітым палітыкам, ваенным і рэлігійным дзеячам. Дарэчы, ён быў у сяброўскіх адносінах з уладальнікам горада Радзівілава Мікалаем Радзівілам Чорным. Сын Мікалая Крыштаф ажаніўся з дачкой Астрожскага — Кацярынай. Яшчэ адно сведчанне, што гісторыі нашых дзяржаў цесна ўзаемазвязаны.

Дэпутаты агледзелі Астрожскі замак, пабывалі ў музеях нумізматыкі, краязнаўчым, кнігі і кнігадрукавання. Гэтыя ўражанні надоўга застануцца ў памяці дэпутатаў. Акрамя тэатральных ведаў было карысна і гісторыю ўспомніць.

**Анатоль ЦІМАШЭЙКА**, старшыня Радзівілаўскага раённага савета Ровенскай вобласці.

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

## ЭНЕРГІЯ — СІЛА РУХУ НАПЕРАД

**Мабыць, менавіта так можна коратка ахарактарызаваць тое, пра што гаварыў журналістам прэзідэнт канцэрна "Белэнерга" Яўген МІШУК. А справа ў тым, што зіма фактычна ўжо прайшла і беларускія энергетыкі правялі яе досыць паспяхова, не дапусціўшы зрываў ні ў камунальнай сферы, ні ў народнай гаспадарцы.**

Канешне, гэта не значыць, што ўсё ў іх выглядае толькі ў ружовым святле. Праблем хапае. І галоўная з іх — грошы. Ва ўсякім выпадку, як прызнаўся адзін з кіраўнікоў канцэрна, для нармальнага развіцця энергетычнай галіны неабходна ўкладваць у яе штогод да 300 мільёнаў долараў, а яны ледзь "наскрабаюць" 100 мільёнаў. Гаспадарка ж немалая: сёння ў склад канцэрна ўваходзяць 23 цеплавыя электрастанцыіustаноўленай магутнасцю 7 619 мегават (МВт), 34 раённыя кацельныя, 11 малых гідраэлектрастанцый устаноўленай

Заканчэнне на 2-й стар.

У ДОБРЫ ШЛЯХ, ФЕСТЫВАЛЬ!



## У ТРЭЦЯЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ — У ЗГОДЗЕ!

***У Палацы культуры чыгуначнікаў горада Мінска адбылося ўрачыстае адкрыццё IV Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур***

Настрой у канцэртнай зале быў незвычайны: так сустракаюцца толькі добрыя знаёмыя і добразычлівыя людзі, аб'яднаныя любоўю да роднага краю.

Як ён пройдзе, IV Усебеларускі фестываль, што сцвярджае годнасць і роўнасць усіх народаў Беларусі? Чым ён будзе адрозніваецца ад папярэдніх?

Заканчэнне на 3-й стар.



АФІЦЫЙНА



### У МІНСКУ АДБЫЛАСЯ XVI СЕСІЯ ПАРЛАМЕНЦКАГА СХОДУ САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ

Парламентарыі разгледзелі саюзны бюджэт на 2001 год. Ён прадугледжвае выдзяленне сродкаў на развіццё дызельнага аўтамабілебудавання, мытных інфраструктур, уладкаванне мяжы і гэтак далей. Прагучаў варыянт гімна Саюза Беларусі і Расіі, які напісалі А. Пахмутава, М. Дабранраваў і І. Лучанок.

НА ЗДЫМКАХ: у час работы XVI сесіі Парламенцкага сходу Старшыня Расійскай Дзярждумы Генадзь СЕЛЯЗНЁЎ і старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Вадзім ПАПОЎ; мэры Масквы і Мінска Юрый ЛУЖКОЎ і Міхаіл ПАЎЛАЎ.

Фота **Мікалая ПЯТРОВА**, БелТА.



ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# ЭНЕРГІЯ — СІЛА РУХУ НАПЕРАД

Пачатак на 1-й стар.

магутнасцю 8,1 МВт, каля сямі тысяч кіламетраў сістэмастваραючых ліній электраперадачы высокага напружання, больш за 2 тысячы цеплавых сетак, звыш 240 тысяч кіламетраў размеркавальных электрасетак, а таксама праектныя і навукова-даследчыя інстытуты, рамонтна-наладачныя прадпрыемствы, шэраг заводаў і магутны будаўніча-мантажны комплекс.

Агульнае спажыванне электраэнергіі па краіне за 2000 год склала 33,2 мільярда кілаватгадзін (кВт-г), прычым спажыванне яе прамысловасцю павялічылася ў параўнанні з мінулым годам на 1,3 працэнта. Радуе і тое, што за кошт памяншэння долі мазуту, які спальваецца, выкіды шкодных рэчываў у атмасферу скараціліся на 22,7 тысячы тон. Але... Усё яшчэ існуе дысбаланс паміж цяплом і энергіяй, што адпускаюцца спажыўцам, і аплатаю іх. А гэта вядзе да каласальных запазычанасцей перад замежнымі пастаўшчыкамі і непазбежных канфліктаў. Як паведаміла журналістам прадстаўнік канцэрна **Ніна Булах**, сёння даўгі канцэрна Расіі складаюць каля 30 мільёнаў долараў, Літве — каля 50 мільёнаў. 317 мільярдаў беларускіх рублёў трэба аддаць за пастаўкі газу. Таму плануецца з гэтага года ўвесці перадаплату пастаўляемай энергіі і цяпла, што значна дысцыплінуе спажыўцоў. Але без энергічных мер у сельскай гаспадарцы, якая з'яўляецца самым буйным (і адначасова — самым вялікім даўжніком) спажыўцом, дабіцца значных перамен вельмі цяжка. А пакуль што, па беларускаму заканадаўству, немагчыма адключыць падачу энергіі на малочную ферму, калі нават гэта гаспадарка безнадзейна патанула ў даўгах.

А паколькі не хапае грошай на закупку больш таннай (наша электраэнергія даражэйшая за імпартную на 0,15 цэнта за кВт-г), то і магчымага прыбытку няма. Таму зараз стаіць пытанне аб адмене так званага перакрыжаванага субсідзіравання, гэта значыць, на плечы насельніцтва поўнасцю ляжа аплата атрымліваемай энергіі і цяпла. Значыць, расходы на гэта ўзрастуць больш чым у два разы (сёння аплачваюць 41 працэнт кошту).

Зразумела, ужо існуе нямала цікавых і выгадных праектаў, асабліва па пастаўках энергіі ў Заходнюю Еўропу. Справа ў тым, што ў Германіі ідзе вельмі сур'ёзная размова пра закрыццё мясцовых атамных электрастанцый. Калі гэта адбудзецца, то пастаўляць ім энергію можа і Беларусь. З гэтай мэтай развіваецца так званы "Паўднёвы варыянт" — для Брэста ўжо заказана і аплачана на 2,7 мільёна долараў абсталявання, на польскім баку поўным ходам ідзе будаўніцтва лініі электраперадачы, і, калі не ўзнікне ніякіх надзвычайных сітуацый, то ўжо сёлета ў першым паўгоддзі праект будзе завершаны.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Згодна з зацверджанымі нядаўна ўрадам асноўнымі накірункамі энергетычнай палітыкі да 2015 года, канцэрн не будзе будаваць ніякіх атамных станцый, зоймецца мадэрнізацыяй і рэканструкцыяй існуючых. Пры гэтым трэба ўлічваць, што асноўныя фонды зношаны ўжо на 60 працэнтаў. Так што пакуль будзе дабудоўвацца ўжо працуючая ў пасёлку Дружны на Міншчыне ЦЭЦ-5, магчыма, пачнецца (калі знойдзецца інвестар) будаўніцтва на Гродзеншчыне станцыі магутнасцю 900 МВт. Яна цікавая тым, што да мяжы ўсяго 80 кіламетраў і можна паспяхова пастаўляць сваю энергію ў Заходнюю Еўропу.

Такім чынам, толькі развіваючы ўласную энергетыку, Беларусь зможа знайсці яшчэ адзін шлях для эканамічнай інтэграцыі ў Еўропу.

**Алесь КОЛА.**

## Уладзімір Васільевіч ГАЛУЗА

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі і Рада Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі" з глыбокім смуткам паведамляюць, што 12 лютага 2001 года раптоўна спынілася сэрца прэзідэнта Нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Сібіры" Уладзіміра Галузы.**

У. Галуза нарадзіўся 19 верасня 1934 года ў вёсцы Новае Сяло Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. У 1953 годзе ён скончыў сярэднюю школу ў Маладзечне і паступіў у Ленінградскі медыцынскі інстытут, пасля заканчэння якога быў прызваны ў рады Савецкай Арміі. Вайсковую службу У. Галуза праходзіў у Венгрыі, на Украіне, у Ленінградзе і Новасібірску.

Пасля звальнення з арміі ў званні палкоўніка медыцынскай службы Уладзімір Васільевіч працаваў урачом-тэрапеўтам. Ён узнагароджаны 9 урадавымі ўзнагародамі і знакам "Выдатнік аховы здароўя".

З 1994 года У. Галуза актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю, стаяў ля вытокаў стварэння ў Новасібірску грамадскіх аб'яднанняў беларусаў. Імя У. Галузы добра вядомае не толькі ў Новасібірску і Расіі, але і ў Беларусі.

У. Галуза быў душой і ініцыятарам многіх добрых спраў беларусаў Расіі, актыўным удзельнікам многіх нарад, навуковых канферэнцый, прысвечаных гісторыі і культуры Беларусі.

Ад нас адышоў чалавек, які ніколі не забываў сваю родную Беларусь, усе сілы і душу аддаваў справе захавання самабытнай беларускай мовы, унікальнай культуры і багатых традыцый беларусаў.

Памяць пра Уладзіміра Галузу назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**Аляксандр ГЛОД,**
намеснік старшыні Рады ФНКА "Беларусы Расіі".

**ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ ПА СПРАВАХ РЭЛІГІЙ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ выказвае шчырае спачуванне з нагоды заўчаснай смерці старшыні грамадскай арганізацыі "Нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусы Сібіры" Уладзіміра Васільевіча ГАЛУЗЫ.**

Уладзімір Галуза — чалавек шчодрай, багатай душы і чыстага сумлення. Ён горача любіў сваю Радзіму, унёс вялікі ўклад у развіццё беларускага нацыянальна-культурнага руху ў Сібіры.

Светлая памяць аб ім назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**Аляксандр БІЛЫК,**
старшыня Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.

КНІЖНАЯ ВЫСТАВА

● **Мікалай ПЯТРОЎ**, БелТА.

У Мінску ў Нацыянальным выставачным цэнтры "БелЭКСПА" адбылася "Беларуская кніжная выстава-кірмаш 2001". У ёй прынялі ўдзел выдавецтвы Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі і Літвы.

Адкрыў выставу старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Міхаіл Падгайны.

НА ЗДЫМКУ: выстава прыцягнула ўвагу шматлікіх юных аматараў кнігі.



СПОРТ

## БАРАЦЬБА: ПЛЮСЫ І МІНУСЫ

Пачатак на 1-й стар.

**Генадзь Лалііеў** (Казахстан) — 76 кг;
**Сяргей Борчанка** (Беларусь) — 85 кг;
**Фаціш Шакірaглу** (Турцыя) — 97 кг;
**Андрэй Шумілін** (Расія) — 130 кг.

Форум барцоў паказаў, што ў беларускай вольнай барацьбы ёсць свае плюсы і мінусы.

Да станоўчых момантаў можна аднесці вялікую кагорту маладых барцоў, што ідуць на змену ветэранам. На турніры праводзілі з вялікага спорту прызёра Алімпіяды ў Атланце барца Аляксея Мядзведзя. А вось 32-гадовы Сяргей Смаль, сярэбраны прызёр Алімпійскіх гульняў у Барселоне ў 1992 годзе, заслужаны майстар спорту СССР, змог выйграць фінальны паядынак у 24-гадовага Мікалая Савіна, які, дарэчы, таксама, як і Смаль, родам з Гомеля. Асноўны час паядынку закончыўся з лікам 1:0 на карысць Сяргея, дадатковы — 1:1, і па рашэнню арбітраў Смаль атрымаў перамогу.

Да мінусаў можна аднесці той факт, што колькасць яшчэ слабых пераcтае ў якасць. Пры слабым сапернцтве (усяго 14 краін і 155 барцоў) нашы вольнікі "засвяціліся" толькі ў трох вагавых катэгорыях з васьмі. Яшчэ два спартсмены з Беларусі занялі шостыя месцы ў вагавых катэгорыях 54 кілаграмы (Сяргей Іуда) і 76 кілаграмаў (Мурад Гайдараў), а Андрэй Шастакоў стаў чацвёртым у вагавай катэгорыі 63 кілаграмы.

Безумоўна, упрыгажэннем спартыўнага свята стаў фінал дзявочага турніру "Медзвядзяня". Узнагароды юныя спартсмены атрымалі з рук Аляксандра Мядзведзя — прафесара, ганаровага грамадзяніна горада Мінска, члена камісіі Асацыяцыі еўрапейскіх алімпійскіх камітэтаў.

**Пётр РАБУХІН.**

**ФУТБОЛ.** Маладзёжная зборная Беларусі дабілася чарговага поспеху. На гэты раз перамагла ў гасцях вельмі моцную зборную Партугаліі — 2:1. Наступную гульню маладзёжная зборная правядзе 2 сакавіка на Кіпры. Нагадаем, што каманда Юрыя Пунтуса праводзіць таварыскія сустрэчы.

**ХАКЕЙ.** Беларуская зборная пераадолела алімпійскую кваліфікацыю, заняўшы ў сваёй групе другое месца. Беларусы перамаглі нарвежцаў — 7:3 і згулялі ўнічыю з немцамі — 1:1 і ўкраінцамі — 2:2. Такім чынам, наша каманда трапіла ў папярэдні раунд і будзе выступаць у Солт-Лейк-Сіці. Сапернікамі па групе сталі зборныя Швейцарыі, Францыі і Украіны. Каманда, якая зойме першае месца ў групе, згуляе ў фінальным раундзе.

Падрыхтаваў **Міхаіл МАЗАКОЎ.**



## НАВІНЫ З НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПРЭС-ЦЭНТРА

**БЕЛАРУСЬ – АДЗІНАЯ КРАІНА Ў СНД, ДЗЕ НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ АДЗНАЧАЕЦЦА ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ ВОІНАЎ-ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТАЎ.** У Віцебску з 1994 года працуе таксама адзіны на постсавецкай прасторы рэабілітацыйны цэнтр. На жаль, з-за фінансавых цяжкасцей летась не ўдалося адкрыць яго другую чаргу. Разумеючы важнасць рашэння гэтай праблемы, дзяржава сёлета выдзяляе каля 700 мільёнаў рублёў на завяршэнне будаўніцтва. Накоплены цэнтрам вопыт бясцэнны. Нездарма ім зацікавіліся ў Злучаных Штатах Амерыкі.

Пра гэта гаварыў на прысвечанай журботнай даце прэс-канферэнцыі **старшыня Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане Станіслаў Гаварушкін.**

Зараз у Беларусі пражывае каля 11 000 інвалідаў Афганскай вайны. Праграмы па сацыяльнай абароне інвалідаў не могуць у поўнай ступені аблягчыць жыццё ўсім, хто мае патрэбу, таму ўжо вясною гэтага года будзе прадстаўлены на разгляд парламента праект закона "Аб ветэранах".

*

**НАПЯРЭДАДНІ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ЛІТОЎСКАЙ РЭСПУБЛІКІ З ЖУРНАЛІСТАМІ СУСТРЭЎСЯ НАДЗВЫЧАЙНЫ І ПАЎНАМОЦНЫ ПАСОЛ ГЭТАЙ КРАІНЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ Йонас ПАСЛАЎСКАС.** Гаворачы пра прыярытэты Літвы ў знешняй палітыцы, спадар Паслаўскас назваў інтэграцыю ў Еўрасаюз і НАТО, а таксама ўстанаўленне і падтрыманне добрых адносін з суседнімі дзяржавамі. Кантакты паміж Літвой і Беларуссю пасол ахарактарызаваў словамі: дынамізм і прагматызм. Па выніках мінулага года Беларусь у спісе гандлёвых партнёраў Літвы займала 12-е месца. Паміж прадстаўнікамі двух краін вядуцца пастаянныя кансультацыі па больш актыўнаму выкарыстанню беларускім бокам магчымасцей гандлёвага порта Клайпеда, плённа працуе сумесная гандлёва-эканамічная камісія.

*

**З 27 ПА 30 САКАВІКА Ў МІНСКУ АДБУДУЦЦА БУЙНЫЯ ВЫСТАВАЧНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ – VIII МІЖНАРОДНАЯ СПЕЦЫЯЛІЗАВАНАЯ ВЫСТАВА "ПАРАШКОВАЯ МЕТАЛУРГІЯ", МІЖНАРОДНАЯ СПЕЦЫЯЛІЗАВАНАЯ ВЫСТАВА "ЗВАРКА І РЭЗКА" І V МІЖНАРОДНАЯ СПЕЦЫЯЛІЗАВАНАЯ ВЫСТАВА "МЕТАЛААПРАЦОЎКА".** Парашковая металургія і зварка з'яўляюцца аднымі з самых высокатэхналагічных і навукаёмістых галін прамысловасці. Поспех у гэтых галінах прамысловасці Беларусі ў многім звязаны з поспехамі Дзяржаўнага навукова-вытворчага канцэрна парашковай металургіі. Па выніках 2000 года рост аб"ёму яго таварнай прадукцыі ў супастаўляльных цэнах да ўзроўню 1999 года склаў 150 працэнтаў, а рост аб'ёму экспартнай прадукцыі — 138,7 працэнта. Цікавасць да супрацоўніцтва з беларускімі калегамі ўжо праявілі прадстаўнікі такіх краін, як Германія, Швецыя, Італія, Швейцарыя, Аўстрыя, Польшча.

Падрыхтаваў
**Максім НЯВІНСКІ.**

## ЗДАРЭННІ

### АДВАЖНЫ ШАФЁР ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНАЙ БАЗЫ "КАРАНЁЎКА" ГОМЕЛЬСКАГА РАЁНА Уладзімір ШАМЕРДЭЙ ПЕРАМОГ ВАЎКА

У лютым у разгары воўчыя вяселлі. Відаць, і адзінокі воўк сабраўся на ўрачыстасці. Ён ішоў каля вёскі Кантакузаўка, куды заглянуў па службовых справах вадзіцель дырэктара эксперыментальнай базы "Каранёўка" Гомельскага раёна Уладзімір Шамердэй. Сустрэча адбылася, як кажуць, лоб у лоб. На шчасце, чалавек не разгубіўся. Калі вялікі драпежнік кінуўся на шафёра невялікага росту, той, імгненна сабраўшыся, адбіў першы ўдар. Але воўк не супакойваўся. Ён бегаў вакол чалавека і потым зноў пачаў атаку. Адчуваючы, што сілы нароўныя, Шамердэй успомніў дзедаўскі прыём: ён засунуў руку ў пашчу драпежніка і схапіў яго за корань языка. Ад болю шэры разбойнік кінуўся ўцякаць.

**Віктар КОТАЎ**, БелТА.

### ГРЫМУЧАЯ СУМЕСЬ

На трасе Гродна — Мінск у раёне вёскі Юравічы супрацоўнікі ўпраўлення ГКФР па Гродзенскай вобласці затрымалі аўтамабіль КамАЗ. У ходзе дагляду высветлілася, што машына пераабсталявана пад нелегальную перавозку вадкасцей і ў ёмістасці знаходзілася 6 200 літраў спірту. У КамАЗе знайшлі таксама сямізараднае гладкаствольнае ружжо "Вінчэсцер" з патронамі і 11 215 долараў ЗША.

За рулём грузавіка знаходзіўся расіянін, які прывёз нелегальны спірт з суседняй краіны і прадаў яго беларусу за 9 315 долараў ЗША. Далейшае следства паказала, што пакупнік-беларус сістэматычна займаўся незарэгістраванай прадпрымальніцкай дзейнасцю, звязанай з рэалізацыяй спірту. У яго былі знойдзены і канфіскаваны пісталет замежнай вытворчасці, прыстасаваны для стральбы з глушыцелем, абойма з патронамі, халодная зброя, сродкі апаратурнай сувязі і скануравання, прыборы візуальнага назірання, а таксама прыстасаванні для перакачкі спіртатрымліваючых вадкасцей.

Па выніках "спіртавой дзейнасці" ўзбуджана крымінальная справа, "прадпрымальнік" затрыманы.

**Андрэй АКІМАЎ**, "СБ".

## ПАДРАБЯЗНАСЦІ



БелТА.

● **Віктар ТАЛОЧКА.**

Сёлетняя мяккая зіма ў Мінску, відаць, стала прычынай таго, што лебедзі-шыпуны аблюбавалі сабе для зімоўкі два вадаёмы ў Шабанах, але тыя аказаліся забруджанымі нафтапрадуктамі з прамысловых прадпрыемстваў. Беласнежнае апярэнне занесеных у Чырвоную кнігу птушак пакрылася чорным мазутам. Амаль 200 лебедзям неабходна хуткая дапамога. Яе аказваюць птушкам работнікі мінскага заапарка ў Чыжоўцы, члены грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Беларусі" і проста добрыя людзі. Але, на жаль, поўнасцю ачысціць пер'е практычна немагчыма — прыйдзецца чакаць каля двух месяцаў да пачатку ліньки, толькі тады можна выпускаць птушак на волю.

НА ЗДЫМКУ: птушкі, што не паляцелі ў вырай.

## У ДОБРЫ ШЛЯХ, ФЕСТЫВАЛЬ



# У ТРЭЦЯЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ — У ЗГОДЗЕ!

Пачатак на 1-й стар.




"Добрая слава пра фестываль ідзе далёка за межамі нашай краіны. Ён запатрабаваны жыццём і ўжо прайшоў праверку на трываласць. Гэта знакавы для Беларусі фестываль!" — так запэўнілі прысутных на ўрачыстым адкрыцці міністр культуры Беларусі Л. Гуляка і старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей А. Білык.

На гэты раз IV Усебеларускі фестываль ахопіць усе вобласці краіны. На працягу 2001—2002 гадоў рэгіянальныя туры пройдуць больш чым у 50 раёнах і гарадах, дзе актыўна працуюць нацыянальныя культурна-асветныя аб'яднанні.

Рэгіянальныя журы, затым рэспубліканскі аргкамітэт вызначаць склад нацыянальных дэлегацый, якія ў чэрвені 2002 года прыедуць у горад Гродна на выніковыя мерапрыемствы фестывалю.

"Гродна ўжо рыхтуецца і чакае гасцей", — запэўніў намеснік старшыні Гродзенскага гарадскога выканаўчага камітэта Я. Жабрун.

Святочны канцэрт пачаўся з своеасаблівай візітоўкі горада — выступлення ансамбля танца "Гродзенскія карункі" Гродзенскага вучылішча мастацтваў. На сценах глядзельнай залы засвяціліся відэакадры з папярэдніх фестываляў, а са сцэны загучалі шырокая руская песня, дакладны рытм армянскага барабана, мелодыя грэчаскага "Сіртакі", заліхвацкая беларуская полька і, як перазовы званочкаў, літоўская "Вяснянка"... Мастацкія гурты нацыянальных культурных аб'яднанняў віталі свой фестываль.

"Ён спрыяе справе нацыянальнай згоды ў Беларусі, — зазначыў намеснік старшыні Рэспубліканскага аргкамітэта, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі І. Яновіч. — 2001 год аб'яўлены ААН Міжнародным годам дыялога цывілізацый. У Беларусі гэты дыялог ужо адкрыўся сродкамі культуры і мастацтва".

Добрага шляху табе, фестываль!

**Віктар МАЦЮШЭНКА.**

НА ЗДЫМКАХ: міністр культуры Беларусі Л. ГУЛЯКА абвяшчае IV Усебеларускі фестываль нацыянальных культур адкрытым; група "Плай" мінскай абшчыны "Малдова"; у танцы "Гродзенскія карункі".

Фота **Міхася ДАВЫДЗІКА.**

## ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ



# МАСЛЕНІЦА Ў БРЭСЦЕ



**На бліны, на каравай шырэй рот разяўляй.**



● **Раман КАБЯК**, *БелТА.*

Любімым святам жыхароў Брэста становіцца Масленіца. Арганізатары яе — работнікі гарадскога парку прапаноўваюць адпачываючым розныя атракцыёны, спаборніцтвы, розыгрышы; харчовыя прадпрыемствы — шашлыкі, кандытарскія вырабы і многае іншае. Галоўнай стравай, зразумела, з'яўляюцца бліны.

НА ЗДЫМКАХ: запрашэнне на свята; бітва "падушкамі"; накарміць сяброў блінамі — першая справа.

ГАСЦЁЎНЯ

# *Міхаіл ДРЫНЕЎСКІ:* «САМЫ КАРОТКІ ШЛЯХ ДА РАДЗІМЫ — ПЕСНІ НАРОДА»

**Рэдка якой краіне ў свеце на пераломным этапе яе гісторыі ўдавалася "стаць на ногі" адразу, што называецца, "адным махам". На ўсё патрэбны час.**

**З розных слаёў насельніцтва ў пераходныя перыяды больш за ўсіх дастаецца інтэлігенцыі. Чаму? Мне здаецца, адказ вельмі просты. Людзі гэтага асяроддзя бачаць жыццё па-іншаму, таму што ведаюць больш, думаюць-разважаюць таксама больш, нарэшце, вельмі ўражліва, нават хваравіта адчуваюць навакolле... Таму і цяжка ім (а часам немагчыма) перабудавацца (асабліва, калі грамадства "пераналаджваецца" чарговы раз, пад чарговымі "новымі" лозунгамі), прыстасавацца да абставін, пачаць пошук нейкага новага месца... І найперш гэта вызначае людзей таленавітых.**

**Сёння ў гасцях у "Голасу Радзімы" Міхаіл ДРЫНЕЎСКІ, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага хору імя Генадзя Цітовіча, народны артыст Рэспублікі Беларусь, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.**



**— Міхаіл Паўлавіч! Дазвольце першае пытанне з разраду філасофска-рамантычных: як і калі нарадзілася ў вашым сэрцы любоў да песні і музыкі?**

— Вядома, вытокі ўсяго — у бацькоўскім асяроддзі, на малой радзіме. Усё жыццё спявалі мае бацькі і, шчыра кажучы, — нядрэнна. Маці расказвала, што бацька ў маладосці заўсёды быў сярод хлопцаў запявалам. Гены, відаць, і перадаліся... Памятаю, як, седзячы на печы, завучваў словы, прыслухоўваўся да моўнай шматграннасці, каляровасці песень нашага фальклорнага рэпертуару. Ну а галоўную ролю ў набыцці любові да беларускага слова, родных каранёў адыграла, як і ў лёсе наогул, мая маці.

Самы кароткі шлях да Радзімы — праз песні народа. Што, калі не народная песня ці танец, здольнае прывіць пяшчоту да крыштальнай чысціні возера, зялёнай шапкі лесу, залацістага поля?! Маці і навучыла мяне гэтаму. Мы ж, тры-чатыры хлопцы, падыходзілі пад вокны хат аднавяскоўцаў і спявалі... Трэба сказаць, слухалі нас з задавальненнем, з бацькоўскай шчырасцю ў вачах. Давалі парады, а хто-ніхто — некалькі капеек, што-колечы з ежы... Здаралася, мы нават пераапраналіся, каб некалькі разоў падысці да адной і той жа хаты. Што зробіш: такі быў час — першыя пасляваенныя гады. Есці ж хацелася ўсім. Наогул, вёска ў нас была "галасістая". Спявалі, як кажуць, з раніцы да вечара.

А яшчэ бацька прынёс з вайны губны гармонік. І мы (а было ў сям'і чатыры сыны) пачалі авалодваць гэтым "мудрагелістым" інструментам. А пазней з'явіўся, праўда, невялікі, але — сапраўдны! — гармонік, чацвярцінка акардэона. Неўзабаве пачаў іграць на радзінах, хрысцінах, вяселлях... А ў 13 гадоў стаў, калі так можна сказаць, кіраўніком калгаснага хору. Вядома ж, не ведаючы пры гэтым нотнай граматы, не слухаючы радыё: яго ў вёсцы проста не было. Неяк на слых паспрабавалі спяваць у тры галасы — і казалі людзі, што атрымлівалася няблага.

А ўжо потым, калі заканчваў сярэднюю школу ў іншай вёсцы, дарэчы, за 13 кіламетраў ад дому, там было фартэпіяна, і набыткі ў музыцы сталі крыху большымі. Дзякуй Богу, музычная дзейнасць і творчасць неўзабаве зрабіліся справай усяго майго жыцця. Хаця з усёй сям'і па гэтай сцежцы пайшоў я адзін.

**— А хто былі вашы настаўнікі?**

— Лічу, мне вельмі пашанцавала на настаўнікаў. Не ведаю нават, кім бы я сёння быў, што б рабіў, каб не яны. Калі здаваў іспыты ў музычнае вучылішча, у душы жыла адна-адзіная мара: засвоіць нотную грамату. Я трапіў у клас Раісы Красніцкай, якая з мяне, вобразна кажучы, дзесяць шкур здзірала, прымушаючы кожны дзень імкнуцца да чагосьці новага, большага. Ужо ў першы год вучобы яна нацэльвала мяне на тое, што я павінен паступаць у кансерваторыю. Да сустрэчы ж з Раісай Цімафееўнай я пра гэта не толькі не марыў, але нават баяўся думаць. Ды дзякуючы яе патрабавальнасці і строгасці, змог стаць тым, кім з'яўляюся зараз. Мяркуйце самі: усе юнакі і дзяўчаты ў вучылішчы мелі за спіной музычныя школы, а я нават нот не ведаў.

А потым, калі паступіў у кансерваторыю, зноў пашанцавала трапіць да цудоўнейшага педагога Ганны Зелянковай — высокаадукаванага, апантанага любімай працай чалавека...

Зразумела, жылося цяжкавата. Я ўжо меў сям'ю, раслі дзеці. Вучыўся на першым курсе кансерваторыі і працаваў у капэле трактарнага завода. Так што часу для гульняў не заставалася.

**— Міхаіл Паўлавіч, вы былі блізка знаёмыя з Рыгорам Шырмам, Генадзем Цітовічам — сапраўднымі карыфеямі беларускай нацыянальнай музыкі. Як гэта адбілася на вашым лёсе?**

— Па-першае, я добра ведаў Рыгора Раманавіча. З Генадзем Іванавічам пазнаёміўся пазней, у 1968 годзе. Сустракаліся на агульных канцэртах.

Кім яны сталіся для мяне? Вядома ж, прыкладам: чалавечнасці, музычнасці, адказнасці, любові да роднага краю, ягонай спадчыны. Цітовіч быў, напрыклад, чалавек вясёлы, любіў і разумеў жарты. Шырма выглядаў больш строгім, можна сказаць, нават акадэмічным. Яднала ж іх адно, самае галоўнае: Рыгор Раманавіч і Генадзь Іванавіч — "Богам пацалаваныя", людзі, апантаныя сваёй справай. Яны далёка бачылі, тонка адчувалі, разумелі...

Не сакрэт, сёння пераважная большасць людзей жыве толькі хлебам надзённым. Многія развучыліся чытаць вершы, спяваць песні. І гэта ў той час, калі гісторыя — можа быць упершыню — дала беларусам вялікую магчымасць адрадзіцца як нацыі.

**— Што значыць для вас беларуская нацыянальная культура?**

— Беларуская нацыянальная культура павінна быць у кожным і ва ўсім. На жаль, для большасці нашых суайчыннікаў такога паняцця не існуе. І самі людзі тут невінаватыя: чым, як гаворыцца, кормімся, тое і маем. Досыць паглядзець на нашы сродкі масавай інфармацыі. Што мы чуем па радыё, бачым на тэлеэкране? Крывавыя кінафільмы, жахлівыя песні... Дзе падзеліся фільмы 60-х—70-х гадоў — добрыя, вясёлыя?! Напрыклад, да юбілею — стагоддзя з дня нараджэння Шырмы мы не змаглі знайсці ніякіх запісаў: усё сцерлі, папалілі — няма ніводнай плёнкі...



У нас на Беларусі многа цудоўных хораў — народных, акадэмічных... І мы павінны захаваць, аддаць Айчыне яе набыткі — родныя, каранёвыя. Мы ж яе дзеці, нарадзіліся на яе прасторах, кормімся хлебам з яе палёў, напоены вадзіцай з яе крынічак. А што я ёй пакіну, калі буду разменьвацца на спакусы зарабляць, скажам, прымітыўнымі эстраднымі шлягерамі?! Нам неабходна сёння, калі можна так сказаць, нейкае нармальнае "сіта", якое б прасейвала "шалупінне". Ёсць жа шмат таленавітых людзей ад Прыроды, ад Бога. Яны ў большасці сваёй не заканчваюць музычных вучылішчаў, кансерваторый, але ў іх ёсць галасы, якія не трэба ставіць: яны ўжо цалкам сфарміраваныя. Хацелася б засяродзіць увагу на тым факце, што спевакі народнага хору ніколі (!) не спяваюць перад мікрафонам ці пад славутую фанаграму, а толькі ўжывую. Уявім, наколькі б парадзеў мастацкі "агарод", калі б, скажам, тэлебачанне правяло конкурс "жывой" песні.

**— Якім чынам адбываецца папаўненне вашага калектыву? Як ён выглядае сёння?**

— Часцей за ўсё людзі прыходзяць самі. Зразумела, мы іх праслухоўваем, потым прымаем рашэнне. Наведваем таксама музычныя вучылішчы, выбіраем. Такі шлях ужо стаў традыцыйным і бярэ пачатак яшчэ ад тых жа Шырмы і Цітовіча. Яны, як і мы, шукалі таленавітых спевакоў па ўсёй Беларусі, бо гэтыя людзі — сапраўдны народны скарб.

Сёння ў складзе нашага хору жаночых галасоў больш. Мужчын, зразумела, менш, бо трэба карміць сям'ю, а ў нас плацяць вельмі мала. Цяжка бачыць, як людзі, улюбёныя ў мастацтва, у народную песню, пакідаюць нас.

**— І часта такое здараецца?**

— На шчасце, не вельмі. Але я мужчын разумею.

**— Міхаіл Паўлавіч, як фарміруецца рэпертуар калектыву? Большасць жа песень — народныя...**

— Ды не большасць, а 90 працэнтаў і нават болей — беларускі фальклор, як песенны, так і танцавальны, музычны. Калектыў складаецца з трох груп: харавая, музычная і танцавальная. Кожная з іх здольная выступаць самастойна. Калі існаваў Савецкі Саюз, былі ў нас замежныя гастролі: як мінімум — адзін раз у год. Успамінаю цікавую паездку ў Карэю. Мы праспявалі гледачам песню на іх роднай мове. Бачылі б вы, у прамым сэнсе слова, шокавы стан залы.

Дарэчы, у тых жа Карэі, Кітаі чэргі за білетамі на нашы выступленні былі, як некалі ў Маўзалей. І гэта пры тым, што каштавалі білеты нятанна.

У нашым рэпертуары ёсць таксама царкоўныя спевы. Выкананнем іх займаемся даўно, але робім гэта асцярожна, тонка.

**— А ў чым, на вашу думку, сакрэт такой павышанай увагі да вашага хору ў замежжы?**

— Пабываўшы на гастролях, я зразумеў гэта. Проста ў многіх краінах свету такога віду мастацтва даўно няма. Цэлыя народы згубілі ўжо сваю нацыянальную культуру: песенную, танцавальную... А мы, наіўныя, гэтага не цэнім і разменьваем нацыянальную спадчыну на бяздарныя шлягеры. Я даўно мог бы пачаць падыгрываць абывацелю, пайсці на тую ж эстраду. Ці падзяліць калектыў на некалькі частак і зарабляць добрыя грошы. Але гэтага не зраблю ніколі. Не магу адрачыся ад поклічу свайго сэрца. Ды і мэта ў мастацтва — развіваць у чалавеку духоўны пачатак, узбагачаць ягоную душу, свядомасць.

Запісаў **Алесь МЯСНІКОЎ**.
Малюнкі **Вячаслава ІГНАЦЕНКІ**.

СПАДЧЫНА



# НОВАЕ ГУЧАННЕ ТРАДЫЦЫЙ

Больш за пяць гадоў у педагагічным універсітэце імя М. Танка ў Мінску працуе факультэт народнай культуры. Тут вядзецца падрыхтоўка выкладчыкаў новага тыпу, здольных дапамагчы наступным пакаленням гарманічна жыць, развіваючы і ўдасканальваючы сябе праз спасціжэнне вопыту, напрацаванага нашымі продкамі. Студэнты факультэта шырока вывучаюць міфалогію, этнаграфію, фальклор, народныя рамёствы. Пераасэнсоўваючы атрыманыя веды з улікам сучаснасці і асабістага творчага патэнцыялу, будучыя педагогі надаюць традыцыям новае гучанне.

НА ЗДЫМКАХ: студэнтка факультэта народнай культуры Юлія КУКРЭШ на практычных занятках у майстэрні ткацтва; студэнты (злева направа) Таццяна АГАФОНАВА, Алена БАРАДАКА і Алена КУЗЬМЯНОК дэманструюць работы, выкананыя ў традыцыях беларускага народнага роспісу.

БелТА.





ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»



### У СТАЛІЧНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ ІМЯ Л. ТАЛСТОГА ПРАДСТАЎЛЕНЫ МАЛЮНКІ ВЫХАВАНЦАЎ НЯДЗЕЛЬНЫХ ШКОЛ ГОРАДА МІНСКА

Юныя мастакі прысвяцілі свае працы 2000-годдзю Нараджэння Хрыстова. Дзіцячае асэнсаванне біблейскіх сюжэтаў, адносіны да веры і Бога, непасрэднасць і наіўнасць адлюстравання ўсяго гэтага з дапамогай фарбаў — замілоўвае. А з другога боку, уражвае сур'ёзнасць адносін дзяцей да сваёй творчасці. І няхай не ўсё атрымліваецца належным чынам, але дзецям заўсёды дадуць добрую параду і педагогі, і іх духоўны настаўнік святар Аляксій Хацееў.

НА ЗДЫМКАХ: "Нараджэнне Хрыста" — праца Яўгеніі ШАЛЬНЕВАЙ з нядзельнай школы пры Свята-Марыі-Магдалінінскай парафіі;духоўнік метадычнага аб'яднання нядзельных школ пры Мінскім Епархіяльным упраўленні святар Аляксій ХАЦЕЕЎ з удзельнікамі выставы.

Тэкст і фота **Яўгена КАЗЮЛІ.**

# "ЗАЛАТЫ САД",

## ЦІ ВОБРАЗ РАЮ Ў СТАРАВЕРСКАЙ КУЛЬТУРЫ ВЕТКАЎШЧЫНЫ

Такую назву мела выстава стараверскіх ікон, падрыхтаваная Веткаўскім музеем народнага мастацтва для экспазіцыі ў Гомелі. Асаблівасць выставы ва унікальнасці ікон, аздобленых бісерам, шыццём XVII—XIX стагоддзяў. Іконы гэтыя прадастаўлены Веткаўскай школай іканапісу, іх вызначае беларуская спецыфіка. У староверау асаблівая ўвага надавалася кіётнай разьбе (аздобе так званай рамкі іконы — кіёта), якой на выставе прадастаўлены цэлы раздзел.

НА ЗДЫМКУ: унікальная ікона Сваціцель Мікалай, расшытая бісерам



(Веткаўская школа жывапісу. XIX стагоддзе).

**Сяргей ХАЛАДЗІЛІН,**
БелТА.

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ СВЯТЫ



**15.04. Вялікдзень.**

### ДВАНАДЗЕСЯТЫЯ СВЯТЫ

07.01. Нараджэнне Хрыстова.
19.01. Вадохрышча.
15.02. Грамніцы.
07.04. Благавешчанне Прасвятой Багародзіцы.
08.04. Уваход Гасподні ў Ерусалім (Вербная Нядзеля).
24.05. Узнясенне Гасподняе.
03.06. Сёмуха. Пяцідзесятніца.
19.08. Праабражэнне Гасподняе.
28.08. Прачыстая.
27.09. Узвіжанне Крыжа Гасподняга.
04.12. Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы.

### ВЯЛІКІЯ СВЯТЫ

14.01. Абразанне Гасподняе і памяць сваціцеля Васілія Вялікага.
07.07. Нараджэнне Іаана Прадцечы.
12.07. Святых першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла.
11.09. Адсячэнне галавы Іаана Прадцечы.
14.10. Пакровы Прасвятой Багародіцы.

### ШМАТДЗЁННЫЯ ПАСТЫ

26.02.—14.04. Вялікі пост.
11.06.—11.07. Пятроў пост.
14.08.—27.08. Прачысценскі пост.
28.11.—06.01. Калядны (Філіпаў) пост.

### АДНАДЗЁННЫЯ ПАСТЫ

Па серадах і пятніцах, на працягу ўсяго года, акрамя суцэльных седміц і Калядаў.
18.01. Вадохрышчанская куцця.
11.09. Адсячэнне галавы Іаана Прадцечы.
27.09. Узвіжанне Крыжа Гасподняга.

### СУЦЭЛЬНЫЯ СЕДМІЦЫ

07.01.—18.01. Каляды.
05.02.—10.02. Мытніка і Фарысея.
19.02.—25.02. Сырная (Масленіца).
15.04.—21.04. Велікодная (Светлая).
04.06.—10.06. Сёмушная.

### ДНІ ПАМІНАННЯ ПАМЁРШЫХ

17.02. Субота посная.
10.03. Субота 2-й седміцы Вялікага посту.
17.03. Субота 3-й седміцы Вялікага посту.
24.03. Субота 4-й седміцы Вялікага посту.
24.04. Радаўніца.
09.05. Памінанне памёршых воінаў.
02.06. Сёмушная субота.
03.11. Дзімітраўская субота.

### НЕ АДБЫВАЕЦЦА ВЯНЧАННЕ

Напярэдадні серады і пятніцы (у аўторак і чацвер) на працягу ўсяго года.
Напярэдадні нядзельных дзён (у суботу), дванадзесятых, храмавых і вялікіх святаў.
На працягу ўсіх пастоў.
На працягу Калядаў з 7 студзеня па 20 студзеня.
На працягу Сырнай і Велікоднай седміц.
У дні і напярэдадні Адсячэння галавы Іаана Прадцечы і Узвіжання Крыжа Гасподняга.

## КАТАЛІЦКІЯ СВЯТЫ



**01.01. Святой Багародзіцы Марыі (урачыстасць).**
**06.01. Аб'яўленне Пана Езуса (урачыстасць)** (адбываецца благаслаўленне золата, кадзіла).
07.01. Хрост Пана (свята).
02.02. Ахвяраванне Пана Езуса (свята).
28.02. Папялец (пачатак Вялікага посту).
**19.03. Святога Юзафа (урачыстасць).**
25.03. Звеставанне Найсвяцейшай Панны Марыі (урачыстасць).
08.04. Вербная нядзеля.
12.04.—14.04. Святы Велікодны Трыдыум (заканчвае перыяд Вялікага посту).
**15.04. Вялікдзень.**
**16.04. Велікодны панядзелак.**
22.04. Свята Божай міласэрнасці.
**24.05. Унебаўшэсце Пана Езуса (урачыстасць).**
31.05. Адведзіны Найсвяцейшай Панны Марыі (урачыстаць).
03.06. Спасланне Духа Святога (урачыстасць).
10.06. Найсвяцейшай Тройцы (урачыстасць).
**14.06. Цела і Крыві Езуса Хрыста (урачыстасць).**
06.08. Перамяненне Пана (свята).
**15.08. Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі (урачыстасць)**
(адбываецца благаслаўленне садавіны, гародніны, збожжа, зёлак і кветак).
08.09. Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі (свята).
14.09. Узвышэнне Святога Крыжа (свята).
29.09. Святых Арханёлаў Міхала, Габрыэля і Рафала (свята).
**01.10. Усіх Святых (урачыстасць).**
02.10. Успамін усіх памерлых вернікаў (у любы з 8-мі дзён пасля гэтага дня вернікі стараюцца наведаць магілкі).
25.10. Хрыста — Валадара Сусвету.
02.12. Першая нядзеля Адвэнту (пачатак Адвэнту).
**08.12. Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (урачыстасць).**
**25.12. Божае Нараджэнне** (канец Адвэнту).

Напярэдадні, 24 снежня, адбываецца ўрачыстая вігілійная вячэра (без мясных страў) перад т. зв. Пастэркай, г. зн. Святой Імшой, якая распачынае перыяд Божага Нараджэння.

Нядзеля ў актаве Божага Нараджэння (альбо 30 снежня) — Св. сям'і Езуса, Марыі і Юзафа.

Выдзелены абавязковыя святы, калі вернікі павінны абавязкова ўдзельнічаць у Святой Імшы.

### САКРАМЕНТ СУЖЭНСТВА

У перыяд Вялікага посту і Адвэнту ўрачысты шлюб ў касцёле не бярэцца па прычыне ўшанавання своеасаблівага характару гэтай часткі літургічнага года. Неўрачыстае заключэнне сакраменту сужэнства можа быць у любы час з умовою, што падчас вышэйназваных перыядаў не будзе рабіцца вяселле ці гулянка.

## СПАДЧЫНА Міхаіла МЕЛЬНІКАВА

На званіцы Свята-Васкрасенскага сабора ў Крычаве знаходзіцца звон, які быў выліты ў 1748 годзе. Захаваў яго для нашчадкаў краязнаўца, журналіст і пісьменнік Міхаіл Мельнікаў. Ён нядаўна памёр. Але яго помняць у Крычаве. Мельнікаў пакінуў гараджанам створаны ім краязнаўчы музей з унікальнымі экспанатамі. Сюды да Мельнікава прыязджалі пісьменнікі Сяргей Смірноў, Канстанцін Сіманаў, Васіль Пяскоў.

Зараз на званіцы звон, які перадалі храму ўдава і дачка краязнаўца Мельнікава. Свята-Васкрасенскі сабор быў адкрыты 103 гады назад. У 1937-м ён быў разбураны, а зараз адноўлены.

НА ЗДЫМКАХ: звон, выліты ў 1748 годзе; хрэсны ход каля храма.



БелТА.

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# ЭСТОНСКІЯ ЎРАЖАННІ



*Таццяна КАРАТКЕВІЧ (злева) з гасцямі з Беларусі.*

**У Эстоніі, маленькай Балтыйскай дзяржаве з насельніцтвам 1,4 мільёна чалавек, я бываю адзін раз у год. Там мне заўсёды прыемна сустрэцца з мясцовымі беларусамі, многія з якіх добра ведаюць мяне, а з некаторымі мы сталі сапраўднымі сябрамі. Кожны тыдзень я паведамляю ім навіны з Беларусі, якія потым гучаць у беларускай праграме Эстонскага дзяржаўнага радыё.**



*Ніна САВІНАВА. Янка ХАНЕНКА — прэзідэнт суполькі беларусаў Кліўленда (ЗША).*

По ладу жыцця Эстонія ўсё больш становіцца падобнай на заходнюю краіну, рыхтуецца да ўступлення ў ЕС і НАТО. З гэтай нагоды ўсё часцей заходзяць размовы аб правах нацыянальных меншасцей і абавязках дзяржавы ў сферы недыскрымінацыі. Сацыяльна-палітычныя працэсы тут набылі тэндэнцыю да зацвярджэння прыярытэтнасці тытульнай нацыі. Дарэчы, Эстонія — амаль адзіная еўрапейская краіна, у парламенце якой няма камісіі па правах чалавека. Тут лічаць, што з гэтым пытаннем усё ў парадку. У мінулым годзе Дзяржкамітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі быў падрыхтаваны праект пагаднення паміж урадамі Беларусі і Эстоніі аб супрацоўніцтве па забеспячэнні правоў асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцей (аналагічныя праекты падпісаны з Расійскай Федэрацыяй, Украінай, Малдовай, Літвой). Гэтым праектам прадугледжвалася развіццё супрацоўніцтва паміж краінамі па падтрымцы дзейнасці беларускіх нацыянальна-культурных аб'яднанняў у Эстоніі, а эстонскіх — у Беларусі. Пагадненнем гарантаваліся роўныя эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы незалежна ад грамадзянства. Аднак Эстонія адмовілася яго падпісваць "у сувязі з далучэннем да Рамачнай канвенцыі па абароне нацыянальных меншасцей".

У Эстоніі каля 23 тысяч беларусаў, жыццё якіх даволі складанае. Сярод іх многа беспрацоўных і пенсіянераў, якія хацелі б вярнуцца на радзіму, "але пенсію там не выплацяць: няма пагаднення паміж Беларуссю і Эстоніяй". Ёсць і сацыяльна адаптаваныя, яны змаглі знайсці сябе ў бізнесе, культуры, адукацыі. Сярод такіх маіх знаёмых **Валерый Жураўлёў** — прэзідэнт буйной у Эстоніі фірмы "Жур", **Алег Бенінсон**, які мае свае супермаркеты, кафэ, рэстараны, **Васіль Падалянчык** валодае прыватным рыбалавецкім суднам, **Міхаіл Масленікаў** — рыбаперапрацоўчым заводам "Масека", **Ігар Шабека** кіруе транспартнай фірмай і г. д.

Асобна я хачу сказаць аб беларускіх жанчынах. **Тамара Гундар** — дырэктар прыватнай школы ў Талінае, дарэчы, на базе якой пачынае працаваць беларуская нядзельная школка. Не толькі ў Эстоніі, але і ў Швецыі, Фінляндыі многія добра ведаюць прыватны гатэль "Валянціна" ў Нарва-Йысу (вядомае месца адпачынку), гаспадыня якога **В. Жураўлёва**. І сапраўды, калі пабываеш там адзін раз, абавязкова захочацца прыехаць яшчэ, пагуляць па беразе Фінскага заліва, пакаштаваць фірменныя беларускія стравы, сустрэцца з гасціннымі гаспадарамі. І не дзіўна, што там адпачывае Прэзідэнт Эстоніі Ленарт Меры, які адзначыў, што за такімі людзьмі — будучыня краіны.

Адразу заўважу, што пералічаных мною асобы маюць эстонскае грамадзянства, а гэта значыць, яны здалі самы сур'ёзны экзамен па эстонскай мове і маюць "сіні" пашпарт (грамадзяніна Эстоніі). У большасці ж беларусаў — "шэрыя пашпарты", яны лічацца асобамі без грамадзянства. Праўда, у апошні час беларусы схіляюцца да выбару беларускага грамадзянства.

Беларускае грамадскае жыццё ў Эстоніі вельмі актыўнае. Напэўна, таму, што ім кіруюць жанчыны, прычым неардынарныя. Культурны цэнтр "Бацькаўшчына" ў Таліне ўзначальвае **Ніна Савінава**. Яна намеснік старшыні Саюза славянскіх культур Эстоніі, член "круглага стала" па нацыянальных меншасцях пры Прэзідэнце Эстоніі і Савета асацыяцыі народаў Эстоніі, рэдактар беларускай праграмы на Дзяржаўным радыё і рэжысёр маштабных эстонскіх і славянскіх святаў. Дзякуючы ёй, створаны гандлёвы дом "Беларусь — Эстонія". У бліжэйшых планах адкрыццё салона льняных мастацкіх вырабаў з беларускага льну і беларускай керамікі.

**Таццяна Караткевіч** — старшыня Беларуска-эстонскай культурна-асветніцкай арганізацыі "Спадчына" ў Нарве, кіраўнік Каардынацыйнага савета нацыянальных меншасцей Нарвы і член Палаты нацменшасцей пры "круглым стале" некамерцыйных аб'яднанняў Эстоніі.

— Нядаўна мы атрымалі ў цэнтры горада памяшканне пад офіс, — гаворыць Таццяна, — дзе плануем стварыць беларускі інфармацыйна-культурны і дзелавы цэнтр. Тут, у Нарве, я хачу прадставіць сваю родную Беларусь як краіну са старажытнай гісторыяй, магутным эканамічным і навукова-тэхнічным патэнцыялам, багатай духоўнай культурай.

**Маргарыта Астраумава** — старшыня Беларуска-эстонскага згуртавання "БЭЗ" у Йыхві, дырэктар мастацкай школы. На працягу некалькіх гадоў абіраецца дэпутатам гарадскога сходу, мастачка, яе карціны з натюрмортамі і кветкамі ўпрыгожваюць многія кватэры. Гэта яе ініцыятыва — устанавіць у Йыхві мемарыяльную дошку ў гонар вядомага беларускага пісьменніка Янкі Скрыгана, які нейкі час жыў у Эстоніі. Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі падтрымаў ідэю Маргарыты і прафінансаваў ліццё дошкі ў бронзе.

Усе яны: М. Астраумава, Т. Караткевіч, Н. Савінава — карыстаюцца павагай не толькі сярод беларусаў, але і эстонцаў. Іх запрашаюць у Швецыю, Галандыю, Фінляндыю, Італію, Польшчу на міжнародныя семінары, дзе яны знаёмяцца з вопытам і дзейнасцю нацыянальных аб'яднанняў, пастаянна ўдзельнічаюць у семінарах, прэс-канферэнцыях па праблемах інтэграцыі нацыянальных меншасцей у эстонскую і міжнародную супольнасць.

— Дзякуючы такім паездкам, пашыраюцца кантакты, якія прыносяць вялікі плён, збліжаюць нацыі і ўзаемна іх узбагачаюць, — заўважае Т. Караткевіч.

— Асноўная мэта ўсіх беларускіх арганізацый — зберагчы на эстонскай зямлі беларускую культуру, мову, народныя традыцыі, — лічыць Н. Савінава. — Традыцыйныя калядныя святы "Спатканне", выставы беларускіх мастакоў, Дні беларускай культуры з удзелам вядомых беларускіх калектываў, гадавіны значных гістарычных падзей, угодкі выдатных дзеячаў культуры, нашы вечарыны добра ведае ўся Эстонія. І, канешне, многія мерапрыемствы праводзяцца дзякуючы дапамозе нашай этнічнай радзімы. Мы падтрымліваем цесныя сувязі з Дзяржкамітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей, Міністэрствам адукацыі, Міністэрствам культуры, ад якіх у мінулыя гады атрымалі бібліятэчкі з беларускамоўнай і метадычнай літаратурай, нацыянальныя касцюмы, камп'ютэрную тэхніку, тэлевідэаапаратуру. Па накіраванню беларускіх арганізацый некалькі маладых беларусаў з Эстоніі вучацца ў беларускіх ВНУ бясплатна.

Але ёсць і праблемы. Асноўнае у нас, як і ва ўсіх адарваных ад радзімы беларусаў, — недастатковасць інфармацыі аб Беларусі. Хоць і атрымліваем па некалькі экзэмпляраў газеты "Голас Радзімы", але нам гэтага не хапае. Мы разумеем складанасць сітуацыі з перасылкай беларускіх перыядычных выданняў. Выхад нейкі знаходзім самі. Маючы камп'ютэрную тэхніку, якую атрымалі ад Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі, пачынаем карыстацца Інтэрнэтам, дзе прадстаўлены WEB-старонкі амаль усіх беларускіх газет.

Упэўнена, што ў Эстоніі беларуская культура захаваецца, дзякуючы самаадданасці людзей, якія ганарацца тым, што яны беларусы. Беларускі рух пашыраецца, нядаўна створаны яшчэ дзве арганізацыі — "Лад" у Пярну і "Сябры" ў Нарве. І самае важнае, на мой погляд: тут адсутнічае непаразуменне па пытаннях тактыкі, метадах дзейнасці.

Кожная арганізацыя мае свой накірунак працы, а паміж сабой — добрыя адносіны. Доказ гэтаму: у снежні мінулага года для каардынацыі агульнай дзейнасці створана Асацыяцыя беларусаў Эстоніі.

**Ніна ПЕТУХОВА.**



*Гатэль "Валянціна".*

ФОТАНАТАТКІ

# СВЯТА



*Музыка з гурта "Маланка" з Бельска-Падляскага.*




*На сцэне — "Распяваны Гарадок".*



*Песню "Мой беластоцкі край" выконваюць салісты гурта "Прымакі" (Беласток).*

**СПАРТЫЎНА-КАНЦЭРТНАЯ ЗАЛА "ВЛУКНЯЖ" У БЕЛАСТОКУ ЛЕДЗЬ УМЯСЦІЛА ЎСІХ ЖАДАЮЧЫХ ПАСЛУХАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ПЕСНЮ. ТУТ АДБЫЎСЯ ЗАКЛЮЧНЫ ГАЛА-КАНЦЭРТ VIII АГУЛЬНАПОЛЬСКАГА ФЕСТЫВАЛЮ "БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-2001".**

Каля трыццаці лепшых калектываў Беласточчыны паказвалі, на што яны здольныя. А паглядзець і паслухаць, шчыра кажучы, было што. Бо кожны калектыў прыўнёс нешта сваё, асабістае. Беластоцкія "Каласкі" нічым



**ДАПАМОЖАМ!**

# ПАКУТЫ І ПЕРАМОГІ Сашы ГУШЧЫ



***Ніхто лепш за маці не раскажа пра тую бяду, што напаткала яе дзіця. А пра бяду, што здарылася ў сям'і Наталлі і Аляксея Гушчаў, сёння, відаць, ведае ўжо ўся Беларусь...***

Наталля ГУШЧА, мама Сашы, расказвае:

— Старэйшыя дзеці былі ў школе. Добра, што іх не аказалася дома. Муж — на рабоце. Саша спала ў калясцы...

Я паставіла вядро з вадою на пліту і пайшла ў сад мыць бялізну.

І тады рванула... Над электралічыльнікам выбуховай хваляй выбіла вугал хаты, скінула дах. Полымя пайшло па столі. Узарваўся тэлевізар. Расплавіўся халадзільнік. Калі сусед, выбіўшы акно, улез у пакой, палаючая бэлька ўжо ляжала ўпоперак каляскі... Адзінаццаць дзён было Сашы да годзіка...

***Прайшоў некаторы час, Наталля Рыгораўна крыху супакоілася, выцерла хустачкай слёзы:***

— Відаць, гэта інстынкт — Саша тады ручкі свае выцягнула з-пад коўдры і прыкрыла імі вочкі... Апёкі 4А — 4Б — апальванне...

Праляжалі мы з дачушкай у бальніцы шэсць месяцаў. Першыя восем найцяжэйшых аперацый былі не такія, як робяцца Сашы зараз, рэабілітацыйныя, а тады — каб хоць выратаваць дзіця ад смерці: трэпанацыя чэрапа, ампутацыя кісцяў ручак... Мая Сашачка засталася жыць. Можа таму, што там я пачала маліцца...

Сама насіла яе на руках на аперацыі. Самае страшнае — чакаць, калі яе прынясуць назад і пакладуць. Думаеш толькі: жывую б вярнулі. Саша, дзякаваць Богу, выжыла. І нізкі паклон хірургу Уладзіміру Дарафеенку — гэта ён зрабіў першыя восем аперацый.

Калі мы выпісваліся, урачы не абнадзейвалі: "Так, жыць яна застанецца, але будзе, як сабачка ў вашым доме, як расліна — полымя апаліла мозг".

Калі праз тры гады прыехалі на першую праверку ў апёкавы цэнтр, там усе здзівіліся: "Яна — жывая?!" А ў тры з паловай гады Саша ўжо чытала. Не было ёй яшчэ і пяці, калі ў часопісе "Вясёлка" надрукавалі Сашыны малюнкі. У тым жа годзе шпіталь "Шрайнер" выдаў калядную паштоўку з яе малюнкам...

Гэта зараз у апёкавым цэнтры, калі здараецца бяда, дзіця жывое ці нежывое, мамам дапамагаюць. Не пакідаюць, адным словам. А мы тады, пасля паўгода бальніцы, засталіся сам-насам з нашым горам... З працы мяне звольнілі, калі я яшчэ ляжала з Сашай у апёкавым цэнтры, калі ніхто не ведаў, ці застанецца жыць мая дачушка, а тут за нас ужо ўсё вырашылі: дзіця — інвалід, яму спатрэбяцца пуцёўкі на адпачынак, лячэнне. Ад нас проста адмахнуліся. І тады наш тата паехаў зарабляць грошы на Поўнач. Шэсць гадоў ён ездзіў — восем месяцаў працаваў там, а на чатыры вяртаўся дадому. Калі на Беларусі на той час зараблялі па 120—150 рублёў, ён прывозіў па 15—18 тысяч. Гарвыканкам дапамог нам, як пагарэльцам, без чаргі купіць кааператыўную кватэру, бо жылі мы ўсё ў тым жа ледзь-ледзь падрамантаваным доме. Але галоўнае, на заробленыя татам грошы мы пачалі лячыць Сашу...

Гэта толькі гучыць хораша — "бясплатная медыцына". Калі сутыкнешся з хваробамі — спатрэбіцца шмат грошай. Едзеш у Маскву — бярэш купэ, каб людзі не глядзелі на дзіця без твару і не плакалі, грошы на таксі, гасцініцу, урачам, каб прымалі... Былі мы і ў Маскве ў інстытуце Вішнеўскага ў прафесара Грышкевіча, лячыліся ў Кіеве, у Кургане ў Елізарава, два разы ляжалі ў бальніцы ў Санкт-Пецярбургу. І ўсё гэта за ўласныя грошы. Светач Грышкевіч адкрыта сказаў: "Прывозьце, калі дзяўчынцы споўніцца 16—17 гадоў. Мы ёй прарэжам рот, вочы. Ні пра якую прыгажосць не можа быць і гаворкі". Ужо тады было зразумела: трэба неяк прарывацца за мяжу. А сувязей з замежжам ніякіх...

Сашы яшчэ не знялі бінты, а муж ужо пісаў і дасылаў лісты па ўсім свеце. Відаць, і тут Бог дапамог. Наш ліст, змешчаны ў газеце "Труд", перадрукавалі англамоўныя "Неўскія навіны". Якраз на той момант жонка аднаго з урачоў шпіталя "Шрайнер" адпачывала ў Пецярбургу. Купіла газету, прачытала пісьмо. А праз некаторы час прыйшоў са Злучаных Штатаў на імя галоўнага рэдактара пакет дакументаў і запрашэнне на лячэнне...

Першая паездка ў Амерыку зацягнулася на паўтара года. Калі мы пражылі там ужо восем месяцаў, ад прэзідэнта ЗША Біла Клінтана атрымалі ліст са словамі падтрымкі. Яшчэ з таго ліста даведаліся, што ён дазваляе нам не толькі бясплатна лячыцца ў Амерыцы, але і назаўжды эмігрыраваць у Злучаныя Штаты. Па праўдзе кажучы, я б, можа, і засталася там, бо лячэнне Сашы — гэта марафон працягласцю ў жыццё, але ж падумала: "Муж адзін выхоўвае яшчэ адну дачку і сына — яны ж тут, на Беларусі засталіся". А прыедзеш дахаты, зноў думаеш: "Божа мой, ці зможаш ты выехаць у тую Амерыку зноў? Гэта ж столькі грошай трэба!" Колькі разоў не маглі выехаць, бо не хапала сродкаў! Пазалетась сабралі грошы толькі на адзін білет. Калі б не амерыканка беларускага паходжання Ірэна Каляда, не ведаю, што б рабілі. Ужо на месцы яна таксама аплаціла гатэль і пражытачны мінімум (дай Бог, ёй здароўя!). Так упершыню за чатыры паездкі мы апынуліся ў гатэлі...

Амерыка — гэта вельмі цяжка. Прыходзілася жыць і ў непрыстасаваных памяшканнях, і ў гаражах. Я прыязджала туды і адразу ўладкоўвалася на працу — там мяне ўжо празвалі "вакуум монстр" — пыласос. Гатавала ежу, стрыгла газоны, мыла машыны. Рабіла ўсё, што можна, каб падзарабіць...

Асабліва цяжка было першы раз. Тады мы прыехалі ў Амерыку з 250 доларамі (150 долараў даў фонд Грушавога "Дзеці Чарнобыля" і 100 долараў — Беларускі дзіцячы фонд). Сям'я, дзе пасяліліся, прыняла нас у штыкі — іх жа папярэдзілі, што мы пражывём тут месяц, а атрымалася, курс лячэння Сашы — сем гадоў. Карацей, праз тры месяцы, за некалькі дзён да Калядаў, нас з нашымі вузламі паліцыя вывезла ў "чорны раён". Тады на сем долараў я жыла сем тыдняў. Пакуль нас не паказалі па тэлебачанні... Уся Амерыка была ў шоку. Потым з'явіўся вялікі нарыс у газеце. Амераканцы сабралі грошы і такім чынам дапамаглі...

І хутка Саша легла на аперацыю. Тады ёй прарэзалі раток, зрабілі паўбароддзе, сфарміравалі нос, каб яна магла дыхаць. А на Сашын рахунак прыйшлі 47 тысяч долараў. Але як толькі з'явіліся грошы, усе пачалі нас разрываць на кавалкі. Мне тлумачылі такі парадак: калі нехта для некага збірае грошы, то значны працэнт ад сабранага — яму. Я падпісала дакументы, што 1 700 долараў будуць штомесячна выплачвацца амерыканцы, якая адкрыла рахунак. Сама ж я таго рахунку і не бачыла. Добра, на білет дадому хапіла...

***Мінулым летам Наталля Рыгораўна змагла адвезці Сашу ў Злучаныя Штаты, дзякуючы людзям, што на працягу года дасылалі з усёй Беларусі грошы на спецыяльны рахунак, хто колькі мог. Тысячай долараў дапамог "Прыорбанк", а яго прэзідэнт Касцючэнка асабіста ўнёс значную суму. І ўпершыню, дзякуючы сабраным грашам (каля шасці тысяч долараў), Наталля Рыгораўна і Саша ўжо не толькі атрымалі сталы дах над галавой, але і адчулі сябе больш-менш камфортна, змаглі акрамя неабходнага мінімуму аперацый зрабіць яшчэ некалькі.***

***Незадоўга ж да леташніх Калядаў Сашы быў уручаны знак міжнароднай прэміі "Преклонение", а яе бацькам, Наталлі Рыгораўне і Аляксандру Валянцінавічу — ордэн Святога царэвіча Дзімітрыя. Узнагароды прыязджаў уручаць прэзідэнт Расійскага дзіцячага фонду.***

***Узнагароды ўзнагародамі, але 6-ці — 7-мі тысяч долараў, неабходных для наступнай паездкі Сашы з мамай у Злучаныя Штаты на лячэнне, зноў не хапае. Для звычайнай беларускай сям'і гэта нерэальная сума, таму зноў трэба звяртацца па дапамогу да людзей. Бо пакуль канкрэтную лічбу сваёй дапамогі назваў толькі Расійскі дзіцячы фонд ды 500 долараў сабралі для Сашы навучэнцы 10-й мінскай гімназіі. А гэта толькі на білеты. У адзін канец.***

**Алег КАРПОВІЧ.**



*НА ЗДЫМКАХ: Саша ГУШЧА атрымлівае ўзнагароду; родныя Сашы заўсёды побач з ёю.*

**Рублёвы рахунак:**
Расчётный счёт 3134008700014
Филиал 508 АСБ Беларусбанк
Код 610
**Гуща Наталья Григорьевна**
**Валютны рахунак:**
Расчётный счёт 3134008705022
Филиал 508 АСБ Беларусбанк
Код 610
**Гуща Наталья Григорьевна**
**Рахунак у ЗША:**
Natalia/Sasha Guhcha
1. Account # — 0529132151
2. International Code: WFBIUS 65
3. Routing # — 121000248
4. Bank Address: Wells Fargo Bank 1300 SW 5th Avenue Portland, OR 97201.

# БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ Ў ПОЛЬШЧЫ





не саступалі "Цаглінцы" са Старога Ляўкова, цудоўна спявалі "Распяваны Гарадок" з Гарадка і жаночы хор "Арэшкі" з Арэшкава. Доўга не адпускалі гледачы дзіцячы гурт "Знічка" Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы і "Маланку" з Бельска-Падляскага. Старажытныя беларускія песні выконваў фальклорны гурт "Любашкі" з Добрай Вады.

Трэба адзначыць увагу, якую выказалі фестывалю многія вядомыя дзяржаўныя і грамадскія дзеячы Польшчы. На фестываль прыехаў і шчыра вітаў яго ўдзельнікаў былы прэм'ер Польшчы Уладзімеж Цімашэвіч. Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава, які па стану здароўя не змог прысутнічаць, даслаў віншаванне, дзе адзначана, што, дзякуючы такім фестывалям, слова беларус гучыць годна.

Прадстаўнічая дэлегацыя з Беларусі, якую склалі адказныя супрацоўнікі Савета Міністраў, Міністэрстваў адукацыі, культуры і замежных спраў, прывезлі для ўдзельнікаў фестывалю каштоўныя падарункі. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Мікалай Крэчка выказаў вялікую падзяку арганізатарам фестывалю — Беларускаму грамадскаму культурнаму таварыству і яго старшыні дэпутату Сейма Яну Сычэўскаму.

Сярод удзельнікаў фестывалю быў і варшаўскі гурт "Госці з нізін", які пастаянна вучыцца ў фальклорных гуртоў Беласточчыны і вельмі цікава апрацоўвае беларускія народныя песні. Завяршыўся гала-канцэрт выступленнем госця фестывалю — гурта "Бяседа" з Мінска.

Адышоў у мінулае яшчэ адзін фестываль беларускай песні. Колькасць яго ўдзельнікаў, асабліва моладзі, гарантуе, што ў беларускага мастацтва на Беласточчыне цікавая будучыня.

Да сустрэчы на наступным свяце беларускай культуры!

*НА ЗДЫМКАХ: гучыць беларуская мелодыя; госці з Мінска — гурт "Бяседа".*

Тэкст і фота
**Яўгена КАЗЮЛІ.**
*Мінск—Беласток—Мінск.*

ВАНДРОЎНЫЯ БЫЛІ



# КАЛЫХАНКА для ТУРЫСТАЎ



**У жніўні 1992-га наша суполка выправілася ў вандроўку ў горы Хамар-Дабан: нам захацелася прайсці шляхам славутага беларускага падарожніка Яна Чэрскага. Даехаўшы на электрычцы ад Іркуцка да станцыі Выдрына, што на паўднёвым беразе Байкала, пешшу падаліся ў глыб тайгі берагам бурлівай Бурун-Селянгінкі — да вытокаў гэтай рачулкі ў перадгор'і. Два тыдні мы ішлі сцяжынай праз запаведнік.**

**Вакол шэра-зялёныя горы, з вяршыняў якіх абрушваліся вадаспады. Сцяжына часта ўскоквала з нізіны на курумнік — буйныя чорныя валуны, параслыя жоўта-чырвоным лішайнікам, якія шчыльна ляжалі па берагах плыткай ракі з празрыстай ледзяной вадой.**

Мне і маім спадарожнікам, звыклым да ўзгоркавых краявідаў Беларусі, здавалася, што вакол занадта шмат прыгажосці — праз колькі крокаў хацелася спыняцца ды дзівіцца на яе. Але наш праваднік Валерый з Іркуцка, наадварот, падганяў нас, паўтараў: калі будзем глядзець не пад ногі, а вакол сябе, дык "завіснем" сярод гэтай прыгажосці месяцы на тры.

Уражанне ад прыгажосці Забайкалля крыху псавала паўднёвасібірскае надвор'е. Мы патрапілі на сезон летніх залеваў, калі дажджы праліваліся тройчы на дзень і двойчы ўначы. Дажджы адбываліся рэгулярна — хоць гадзіннік па іх звярай: прыблізна а сёмай раніцы, апоўдні, а дзевятай увечары, апоўначы і на світанку. Іх інтэнсіўнасць можна было параўнаць з вядром вады, якое рэзка перакульвалася кімсьці наверсе.

Мы прызвычаіліся да дажджоў удзень і амаль не збаўлялі крок, толькі нацягвалі на сябе і на заплечнікі цэлафанавыя накідкі. Мы ставілі намёты для начлегу і вячэралі а восьмай гадзіне вечара. Нам добра спалася ўначы пад стук кропель па даху намётаў.

Так і быў распланаваны наш турыстычны дзень — ад дажджу ўранку да дажджу ўвечары. Аднак не існуе правілаў без выключэнняў. Такім выключэннем стаўся для нас пяты дзень вандроўкі, калі дождж, які пачаўся апоўдні, працягваўся да ночы. У той дзень мы не паабедалі і не павячэралі: не маглі развесці вогнішча ў мокрым лесе. Пара было ставанавіцца на начлег, а паток вады з неба не змяншаўся. Няўжо нам усю ноч давядзецца ісці па тайзе?

На шчасце, патрапілі на леснікову старожку. Гаспадара не было: пэўна, падаўся ў бліжэйшы населены пункт. Мы ледзь умясціліся ў старожцы, стоячы, павячэралі ды пачалі ўкладвацца спаць. Дзяўчаты ўшчыльную разлегліся на падлозе. Хлопцы — на гарышчы з нізкім дахам.

А нам з Валерыем месца не засталося. Мы пачухалі патыліцы і вырашылі заначаваць на лавах, прымацаваных знадворку да сцяны ля ўваходу. Шырыня тых лаваў дазваляла нам ляжаць толькі на баку — за колькі сантыметраў ад носа струменілася сцяна дажджу.

Я адчуў сябе так няўтульна, што гучна выпаяўся.

Валерый, страсаючы кроплі дажджу з валасоў і броваў, палічыў за лепшае, каб самому не "раскіснуць", суцешыць мяне:

— Паспрабуй адшукаць што-небудзь прыемнае ў гэтай сітуацыі.

— Спрабую, не атрымліваецца, — шчыра адказаў я.

— Усё ж ляжаць паўсухім на лаве зусім не тое ж самае, што брысці па лесе пад дажджом, — параўнаў Валерый.

— І не тое ж самае, што спаць у сухім намёце, — заўважыў я.

— Ну, калі ты лічыш, што ўсё так кепска, дык варта параўнаць наш выпадак з найгоршым, — параіў Валерый.

— Няўжо можа быць нешта горш? — з'едліва здзівіўся я.

Аказалася, можа. Наша становішча сырасцю і холадам нагадала Валерыю батальённую гаўптвахту, на якую патрапіў, калі служыў у дэсантных войсках. На "губе" ён апынуўся за "самаволку" — выбег за тэрыторыю часці, каб набыць гарэлкі і цукерак у прадуктовым магазіне, які знаходзіўся за сто метраў ад брамы. Як на здзек, у чарзе ў касу адразу за Валерыем месца заняў камандзір роты. Ён спытаў у падначаленага, дзе яго адпускное пасведчанне, і ветліва правёў Валерыя да КПП, а потым і да гаўптвахты.

"Губа" аказалася даўжынёй два крокі, столькі ж у шырыню ды паўтара метра ў вышыню. У камеры не было ні лавы, ні крэсла, а калі Валерый датыкаўся далонню да сценаў, пальцы прадзімаў ледзяны холад. З рота валіла пара.

— Дык што мне было рабіць, Ягор? — спытаў ён мяне. — Енчыць ды лаяцца?.. І енчыў, і лаяўся. А потым вырашыў паспаць.

Заснуў Валерый арыгінальным чынам: зняў бот з левай нагі і насунуў на патыліцу, каб падэшва ўпіралася ў столь, босую нагу засунуў у правы бот, а далоні з пасінелымі пальцамі засунуў пад пахі. Спярша стаяць было не вельмі зручна. Потым з'явіўся нейкая раўнавага. А за ёю надышоў і сон — лепшае выратаванне ад армейскіх кашмараў. І так, не здубеўшы, ён правёў на "губе" суткі.

— Вось і табе лепей не скардзіцца на жыццё, а заснуць, — зрабіў высновы праваднік. — Лічы мой расповед калыханкай для турыстаў. І калі будуць у жыцці здарацца складаныя моманты, згадвай маю калыханку, параўноўвай кепскае з найгоршым. Адразу на сэрцы стане лягчэй.
Я так заўсёды раблю. Прыгадаю тую "губу" — і адразу шмат пазітыўных момантаў заўважаю вакол сябе.

— Дзякуй за калыханку, — пазяхнуў я.

Мы сапраўды хутка заснулі, а калі прачнуліся, то прыпякала сонейка. Начны дождж ужо не выклікаў такога абурэння.

І я падумаў: ці не панаракаць на спякоту? Раптам Валерый прыгадае яшчэ якое цікавае здарэнне са свайго жыцця, супакоіць турыстычнай калыханкай, параўнае кепскае з найгоршым? Бо хіба не для таго людзі ходзяць у вандроўкі, каб пачуць штосьці новае, незвычайнае ад спадарожнікаў?..

**Ягор КОНЕЎ.**

Малюнкі
**Вячаслава ІГНАЦЕНКІ.**

ВЕРЫЦЬ ЦІ НЕ ВЕРЫЦЬ?

# «ЧОРНЫЯ» ДНІ

***Яшчэ ў эпоху палеаліту наш прашчур прыкмеціў, што ў адзін дзень усё ў яго ідзе гладка, як па масле, а ў другі — усё валіцца з рук. Але да прызнання такіх дзён ракавымі ("чорнымі") было яшчэ далёка.***

Здавалася, гэтыя фатальныя "чорныя" дні павінны быць для кожнага чалавека свае. Аднак мудрацы старажытнага Усходу, якія кіраваліся месяцавым календаром, а таксама егіпцяне, жыццё якіх было падпарадкавана сонечнаму календару, прыйшлі да высновы, што існуюць спрыяльныя і неспрыяльныя дні адны і тыя ж для ўсіх людзей. Яны сцвярджалі, што поспех ці няўдача дня залежыць ад месцазнаходжання Сонца ці Месяца адносна Зямлі.

У спрыяльным уплыве Сонца на наша самаадчуванне, а значыць і на поспех нашых пачынанняў пераконваліся мы не раз. А вось на Месяц не звярталі ўвагі. З вялікім здзіўленнем даведваемся з кніг, якія ўжо рассыпаюцца ад старасці, што Месяц у гэтых справах значна важнейшы, чым Сонца. Паміж тым, як візіць ён (залатым сярпом ці круглым блінам), і значнасцю асобных дзён месяца, нават гадзін, існуе, відавочна, цесная сувязь.

**"Чорнымі" днямі** на працягу стагоддзяў лічыліся 1 красавіка, калі нарадзіўся Іуда Іскарыёт, 1 жніўня, калі Каін забіў Авеля, а таксама 1 снежня, калі Садом і Гамора, два гарады ў Палесціне, шырока вядомыя маральнасцю сваіх жыхароў, былі знішчаны землятрусам.

Нешчаслівымі для нараджэння з'яўляюцца, па крайняй меры, два дні кожнага месяца. У працы пад назвай "42 нешчаслівыя дні ў годзе, якія нейкі грэчаскі аўтар яго Егіпецкай Царскай Вялікасці адкрыў і якія вопыт прызнаў верагоднымі", змешчаны іх спіс. Так, у студзені нешчаслівымі названы: 1, 2, 6, 11, 17, 18; у лютым — 8, 16, 17; у сакавіку — 1, 12, 13, 15; у красавіку — 1, 13, 15, 17, 18; у маі — 8, 10, 13, 17, 30; у чэрвені — 1, 17; у ліпені — 1, 5, 6; у жніўні — 1, 3, 18, 20; у верасні — 15, 18, 29; у кастрычніку — 15, 17; у лістападзе — 11, 17; у снежні — 1, 7, 11.

Днём, які ва ўсіх календарах лічыўся фатальным, была пятніца.

**А што ж панядзелак!** Да гэтае пары яшчэ многія не пачынаюць у панядзелак важнай справы, нават нічога нікому не пазычаюць, а нязначныя страты ў гэты дзень лічаць кепскім прагнозам на ўвесь тыдзень. І наадварот, камплімент, атрыманы ў панядзелак, цэніцца больш, чым у іншыя дні.

Абачлівыя людзі не адпраўляліся ў гэты дзень у падарожжы, не наладжвалі гандлёвых здзелак, асцерагаліся пазык, сядзелі, як мыш пад венікам. І кожную ўсмешку лёсу ў панядзелак лічылі вялікай нечаканасцю і, як падзею незвычайную, дабраторным прадвесцем на ўвесь тыдзень.

***Мінулі стагоддзі, а "панядзелкавыя" забабоны засталіся ў некаторых людзей да гэтай пары.***

Па матэрыялах
друку падрыхтаваў
**Пётр ЖЭБРАК.**

СТОП-КАДР



*Лютаўскі дождж — не перашкода.*
Фота **Ліліі ЛАПШЫНОЙ**, БелТА.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Тацццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнік Віктар МАЦЮШЭНКА.
Спецыяльныя карэспандэнты Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

Наш адрас: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.
Адрас у INTERNET: http: //www.voiceland.unibel.by. E-mail: voiceland@tut.by

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 897 экз.
Зак. 517.
Падпісана да друку 26.2.2001 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).